наша свабода

№21(248) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

22 ЛЮТАГА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Беларуская сенсацыя





На 19-й зімовай Алімпіядзе набольш скандальных падзей і сенсацыйных здарэнняў звязана з беларускай камандай. Усё пачалося з таго, што нашых спартсменаў пачалі карміць гамбургерамі замест абедаў, і арганізатары былі змушаныя прыносіць прабачэнні. Потым узнік допінгавы скандал адносна нашай спартсменкі Юліі Паўловіч, якая будзе праходзіць тэст на допінг сёння. Потым з Солт-Лэйк-Сіці быў высланы Яраслаў Барычка, кіраўнік беларускай алімпійскай дэлегацыі. Нарэшце беларускі скакун з трампліну Андрэй Лыскавец знік з Алімпійскай вёскі. Спачатку наша дэлегацыя заявіла ў паліцыю аб знікненні чалавека, але пасля высветлілася, што Лыскавец тэлефанаваў жонцы ў Беларусь і казаў, каб не хвалявалася, бо ён на некаторы час затрымаецца ў ЗША «пагасцяваць у сяброў». Што гэта – высветліцца пасля сканчэння Алімпійскіх гульняў.

А тое, што здарылася ўвечары дваццатага лютага ў Солт-Лэйк-Сіці, смела можна назваць галоўнай спартовай беларускай сенсацыяй гэтых Алімпійскіх гульняў. Беларуская хакейная зборная ў чвэрцьфінале сканцэнтравалася і перамагла зборную Швецыі – 4:3. Тое, што рабілася на лядовай пляцоўцы, немагчыма пераказаць. Беларусы здзейснілі подзвіг, у які ніхто не верыў (хакеістам ўжо набылі квіткі на самалёт да Мінску). Нашы хакеісты ўзялі верх над сямікразовымі чэмпіёнамі свету, бронзавымі прызёрамі апошняга першынства планеты. Шведская хакейная каманда мусіць пакінуць удзел у Алімпіядзе.

Заканчэнне на стар.3

# Кадравае напаўненне другога тэлеканалу

*У аўральным тэмпе працягваецца праца над стварэннем Другога нацыянальнага тэлеканалу (БТ-2). Тэрмін адкрыцця каналу вызначаны асабіста Аляксандрам Лукашэнкам – гэта 1 траўня сёлета. Як нам стала вядома, «ініцыятыўная група» каналу ўжо вядзе перамовы з людзьмі аб прыёме на працу.*

15 лютага беларускі кіраўнік падпісаў указ «Аб стварэнні закрытага акцыянернага таварыства «Другі нацыянальны тэлеканал». Паводле ўказу, канал ствараецца «ў мэтах прадастаўлення насельніцтву шырэйшых магчымасцяў у атрыманні поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі».

Заснавальнікамі БТ-2 будуць дзяржава (кантрольны пакет у 51% акцыяў) і «іншыя юрыдычныя асобы». Савету міністраў даручана ў найхутчэйшыя тэрміны распрацаваць усе патрэбныя дакументы, каб другі тэлеканал запрацаваў.

Задача, пастаўленая перад урадам, вельмі няпростая. Найперш Савету міністраў трэба аднекуль узяць сродкі для ўнясення ў якасці сваёй часткі статутнага фонду – каля 2 мільёнаў даляраў. Гэтыя сродкі, дарэчы, у бюджэце на 2002 год не закладзеныя.

Кіраваць дзяржаўным пакетам акцыяў будзе Міністэрства інфармацыі. Відаць, пад гэтую справу міністэрства ўмацавалі «варагам» з Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Генеральны дырэктар інфармацыйнага агенцтва НДТРК Сяргей Булацкі стаў намеснікам міністра і, як нам патлумачылі ў інфармацыйным ведамстве, будзе якраз курыраваць БТ-2.

Разам з дзяржавай удзел у стварэнні тэлеканалу возьмуць прыватныя кампаніі. Але якія менавіта – гэта трымаецца ў сакрэце. Тым болей што, нягледзячы на з'яўленне прэзідэнцкага ўказу, юрыдычная асоба «Другі нацыянальны тэлеканал» яшчэ не зарэгістраваная.

Затое пэўным можна лічыць тое, што новы беларускі канал пачне вяшчанне на частотах *ОРТ*. Але не спяшайцеся развітвацца з «*Полем Чудес*» або «*Слабым звеном*». Улічваючы малы бюджэт, які будзе мець БТ-2, хутчэй за ўсё мы сустрэнемся з тэлевізійным сімбіёзам, знаёмым ужо мінчукам па прыкладзе тэлеканалу СТВ. Усе рэйтынгавыя фільмы і гульні па-ранейшаму застануцца ў эфіры, а вось навіны і рэклама будзе беларускай вытворчасці.

Вядуцца ўпартыя размовы пра тое, што ўдзельнічаць у гэтым праекце збіраецца само *ОРТ*. Па нашых звестках, гэтую ідэю ў калідорах тэлекампаніі актыўна лабіруе першы намеснік генеральнага дырэктара Аляксандр Любімаў. Аднак пацвердзіць нам гэта не ўдалося – вядомы ў мінулым тэлежурналіст і праўдашукальнік адмежаваўся ад усіх надзейным бар'ерам сакратарак і ахоўнікаў.

Заўсёды, калі пачынаюцца размовы аб стварэнні новай структуры, паўстае пытанне – хто будзе ёй кіраваць? У нашым выпадку кіраўніцтва, хутчэй за ўсё, даверыць сённяшняму амбасадару Беларусі ў Румыніі Рыгору Кісялю. Ён цяпер у Мінску і актыўна ўдзельнічае ў перамовах з будучымі супрацоўнікамі каналу. Нагадаем, што да дыпламатычнай дзейнасці яму даводзілося кольні гадоў кіраваць нацыянальнай тэлевізіяй. І на першы, і на другі «фронт» яго кінуў адзін і той жа чалавек – кіраўнік дзяржавы.

Відавочна, што даверыць абы-каму кіраўніцтва другім тэлеканалам А.Лукашэнка не можа. Згодна з негалоснай канцэпцыяй беларускіх электронных мас-медыяў, на начальніцкай пасадзе мусіць быць чалавек, які цалкам падзяляе светапогляд сённяшняй улады. Рыгор Кісель цалкам упісваецца ў гэтую канцэпцыю. Але пры гэтым, у адрозненне ад іншых прэтэндэнтаў на гэтую пасаду накшталт Замяталіна, Р.Кісель яшчэ мае адпаведны досвед працы.

Падыходы, з якімі дзяржава ўзялася за стварэнне БТ-2, яскрава сведчаць: камерцыйна-забаўляльная скіраванасць не будзе асноўнай на БТ-2. Першае месца ў эфіры застанецца, як і на БТ-1, за агрэсіўным прасоўваннем дзяржаўнай ідэалогіі. Гэта ці не адзінае, чаму навучыліся «прафесіяналы з БТ» за больш як сем гадоў улады А.Лукашэнкі.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

## Помнік на «Нямізе»

Каб увекавечыць памяць ахвяр трагедыі, што адбылася 30 траўня 1999 году ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга», Мінгарвыканкам прыняў рашэнне ўсталяваць да трэцяй гадавіны трагедыі памятны знак на сцяне ўваходу ў метро.

Праект знака распрацоўвае гарадское архітэктурнае бюро пры камітэце архітэктуры Мінгарвыканкаму. Як паведаміла БелаПАНу дырэктар бюро Святлана Барысовіч, рашэнне паставіць новы знак да ўсталявання праз 40 дзён пасля трагедыі прынята па просьбе бацькоў ахвяраў. Гэта будзе камерная кампазіцыя: крыж і аправа абраза. У аправе змесціць выказванне з Евангелля ад Іаана і імёны 53 нябожчыкаў.

Лавінія АРЭШКА

## Рэдагуюць закон аб грамадзянстве

На веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі будзе разгледжана новая рэдакцыя закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь».

Летась беларускае грамадзянства было прадастаўлена 21 тысячы 123 асобам. За гэты ж перыяд 274 чалавекі страцілі грамадзянства Беларусі. У новай рэдакцыі закона грамадзянам Беларусі па-ранейшаму забаронена мець другое грамадзянства. Грамадзянства іншай краіны, атрымане без выхаду з грамадзянства Беларусі, не будзе прызнавацца беларускім бокам.

Юрый ПАЦЁМКІН

**ВЕСТКІ**



## Крэдыты на адукацыю

У Міністэрстве эканомікі разглядаюць распрацаваны Міністэрствам адукацыі праект прэзідэнцкага ўказу «Аб крэдыце на льготных умовах на атрыманне адукацыі». Паводле яго, крэдыты выдаюцца на тэрмін да 10 гадоў, а максімальны гадавы памер ільготнага адукацыйнага крэдыту складае не больш за 70% гадавога кошту навучання.

## «Некропаль Курапаты»

Пры Беларускім саюзе мастакоў створаная экспертная камісія «Некропаль Курапаты», куды ўвайшлі вядомыя мастакі, скульптары і мастацтвазнаўцы. Яны будуць займацца правядзеннем конкурсу на лепшы праект мемарыялу ва ўрочышчы, а таксама аўкцыёнаў для збору сродкаў на яго ўзвядзенне.

## *Siemens* і беларуская сотавая сувязь

Пераможцам тэндэру на пастаўку абсталявання для другога апаратара мабільнай сувязі стандарту *GSM* у Беларусі стала нямецкая кампанія *Siemens*. Пра гэта днямі паведамілі ў Міністэрстве сувязі Беларусі.

## Грып пашырае геаграфію

Днямі эпідэміі грыпу абвясцілі ў Наваполацку і Брэсце. А найвышэйшыя ўзроўні захворвання на грып і вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі адзначаныя ў Мінску, Маладзечне, Салігорску, Мазыры і Рэчыцы. Палова хворых – дзеці.

## Выбары афіцэрскіх старшыняў

Паводле новага Палажэння аб афіцэрскіх сходах ва Узброеных сілах Беларусі, старшыні афіцэрскіх сходаў у беларускай арміі цяпер будуць абірацца тайным галасаваннем і на альтэрнатыўнай аснове. Раней імі звычайна рабіліся камандзіры.

## Барацьба супраць рэйтынгавых махляроў

Вядучыя беларускія рэйтынгі *Akavita.by*, *All.by* і *Br.by* заключылі пагадненне па барацьбе з несумленнымі ўдзельнікамі рэйтынгаў. Адным з пунктаў гэтага пагаднення прадугледжана, што сайт, які будзе штучна павышаць сваё месца ў рэйтынгу, адразу ж выключаць з усіх трох згаданых рэйтынгаў на адзін месяц.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»** 1680

# Ртуць на Партызанскім праспекце

Двойчы на працягу апошніх сутак падраздзяленні МНС выязджалі для ліквідацыі надзвычайных сітуацый, звязаных з выяўленнем у Мінску ртуці.

19 лютага каля 12.00 ртуць разлілася ў памяшканні гарадской аптэкі № 17 на Партызанскім праспекце пры ўскрыцці ўпакоўкі медыцынскіх градуснікаў і разбеглася па 30 квадратных метрах падлогі. Мяркуецца, што градуснікі былі пашкоджаны яшчэ ва ўпакоўцы. Ратавальнікі Рэспубліканскага атраду спецыяльнага прызначэння МНС сабралі ртуць і правялі дэмеркурызацыю месца разліву. Зробленыя замеры пары ртуці ў памяшканні аптэкі выявілі перавышэнне гранічна дапушчальнай канцэнтрацыі ў 100 разоў. На гэты момант аптэка часова закрыта для правядзення прафілактычных работ.

Праз тры з паловай гадзіны ратавальнікам давялося зноў выехаць на Партызанскі праспект. Гэтым разам у падвале жылога дому знайшлі герметычна закрытую металічную ёмістасць, унутры якой утрымлівалася ртуць. Агульная колькасць вадкага металу была вельмі вялікай — 50 кілаграмаў. Варта адзначыць, што за ўвесь 2001 год падраздзяленні МНС знайшлі і сабралі крыху больш за 120 кілаграмаў ртуці.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Грузавік сутыкнуўся з электрычкай

У выніку сутыкнення электрацягніка і грузавога аўтамабіля, якое адбылося 19 лютага на чыгуначным пераездзе ў Слоніме, загінуў вадзіцель грузавіка.

Як паведамілі ў прэс-службе МНС, у 13 гадзін 30 хвілін ЗіЛ-130, гружаны ўгнаеннямі, спрабаваў пераехаць на чырвоны сігнал семафора чыгуначны пераезд у Слоніме (Гродзенская вобласць). Аўтамабіль урэзаўся ў прыгарадны састаў Баранавічы–Ваўкавыск, які рухаўся па чыгуначным палатне. 36-гадовы вадзіцель грузавіка памёр на месцы аварыі, пасажыры электрацягніка не пацярпелі.

Праз некалькі хвілін пасля аварыі выратавальнікі адбуксіравалі пашкоджаны аўтамабіль. Пасажыраў электрацягніка даставілі ў Ваўкавыск аператыўна выдзеленымі аўтобусамі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Камп'ютэрныя клубы Мінску

19 лютага на нарадзе-семінары работнікаў адукацыі і кіраўнікоў камп'ютэрных клубаў Мінску быў прыняты праект Палажэння аб рабоце камп'ютэрных клубаў. У абмеркаванні праекту ўдзельнічалі кіраўнікі клубаў, прадстаўнікі шэрагу ўпраўленняў Мінгарвыканкаму, раённых адміністрацый, цэнтру гігіены і эпідэміялогіі.

Як паведаміла БелаПАНу начальнік упраўлення выхаваўчай працы камітэту па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкаму Таццяна Сезень, сёння ў Мінску працуе 107 клубаў (афіцыйная іх назва — пункты пракату), якія, як правіла, належаць прыватным асобам. Разам з тым палажэння, якое б рэгулявала іх працу, няма. У выніку, паводле словаў Сезень, падчас нядаўняй праверкі такіх клубаў высветлілася, што многія з іх працуюць з парушэннямі санітарна-гігіенічных нормаў і тэхнікі бяспекі.

У прынятым праекце палажэння камп'ютэрным клубам прапануецца кіравацца патрабаваннямі санітарных нормаў, зацверджаных у 2000 годзе. Яны, у прыватнасці, прадугледжваюць увядзенне ў штат работнікаў клубу педагога і забарону на наведванне клубаў у начны час (з 22 да 7 гадзін) асобамі, якім не споўнілася 18 гадоў.

**Лавінія АРЭШКА**

# Так жыць нельга



19 лютага ў цэнтры Мінску каля 30 актывістаў незарэгістраванага руху «Зубр» у рамках сацыяльнай кампаніі «Так жыць нельга!» правялі раздачу ўлётак. Мэта – прыцягнуць увагу грамадзян да таго, што будынак паліклінікі № 4, якая знаходзіцца на вуліцы Энгельса, 17 і абслугоўвае больш як 12 тысяч дзяцей, могуць перадаць так званай лечкамісіі – медыцынскай установе, якая абслугоўвае найперш рэспубліканскую наменклатуру. Пра гэта актывістам «Зубра» паведамілі некаторыя педыятры паліклінікі. Таму на кожным з 394 дамоў, прыпісаных да паліклінікі, былі расклееныя аб'явы з выявай паліклінікі і паведамленнем аб верагодным яе лёсе.

Падчас раздачы ўлётак міліцыя затрымала чатырох чалавек: Алеся Апраніча, Антона Старыкава, Алену Кандратовіч і Вольгу Антановіч. Іх даставілі ў грамадскі пункт аховы правапарадку № 70 Партызанскага раёну, дзе супрацоўнікі міліцыі перапісалі іх пашпартныя звесткі, забралі рэшту ўлётак. Затым маладых людзей адпусцілі.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

# Цягнік рэкорднай вагі

Орша была першай чыгуначнай станцыяй на Беларусі, праз якую прайшоў цягнік звышвялікай грузападымальнасці. Цягнік важыў 7 тысячаў тонаў. Ён пачаў свой шлях са станцыі Вязьма ў Расійскай Федэрацыі, а скончыў у Калінінградзе. Ён рухаўся па чыгунках трох краінаў – Расіі, Беларусі і Літвы. Гэты рэйс суперцяжкога цягніка быў выпрабавальны. Мэтаю ягонага падарожжа было спраўдзіць устойлівасць рэек і сістэмы энергазабеспячэння.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Хімпрамысловасць не выканала плану

Хімічныя прадпрыемствы Беларусі ў студзені не выканалі плану вытворчасці прамысловай прадукцыі.

Паводле звестак на 1 лютага, прадпрыемствы і аб'яднанні галіны вырабілі прамысловай прадукцыі ў супастаўных цэнах на суму 148 млрд. 986 млн. 507 тыс. беларускіх рублёў, або 87,7 працэнта ад студзеня 2001 году.

Асабліва дрэнна спрацавалі прадпрыемствы па выпуску мінеральных угнаенняў і хімічных валокнаў. Так, Гомельскі хімічны завод за справаздачны перыяд знізіў выпуск прадукцыі на 50 працэнтаў, ВА «Беларуськалій» – амаль на 20 працэнтаў.

Значнае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці дапусцілі светлагорскае ВА «Хімвалакно» (89,3 працэнта да студзеня 2001 году), магілёўскае ВА «Хімвалакно» (66,3%), лідскае ААТ «Лакафарба» (68,2%), гродзенскае ВА «Хімвалакно» (75,9%) і іншыя.

Асноўнымі прычынамі зніжэння аб'ёмаў вытворчасці ў гэтых прадпрыемствах, як лічаць спецыялісты канцэрну «Белнафтахім», быў недахоп грошай для закупкі сыравіны, а таксама неплатаздольнасць беларускіх спажыўцоў і падзенне попыту на прадукцыю.

Паводле звестак на 1 лютага, прадпрыемствы і аб'яднанні канцэрну «Белнафтахім» вырабілі прамысловай прадукцыі ў супастаўных цэнах на суму 386 млрд. 372,36 млн. беларускіх рублёў, або 105,9 працэнта да студзеня 2001 году.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА**

# Агітацыя на страйк у прафсаюзах

Толькі пры адным голасе супраць кіраўнікі галіновых прафсаюзаў Брэсцкай вобласці на сваім каардынацыйным сходзе вырашылі працягваць мэтавую падрыхтоўку да вулічнай акцыі пратэсту. Як паведаміў старшыня рады абласнога аб'яднання прафсаюзаў Уладзімір Мірочнік, першапачаткова запланавалі былі правесці мітынг 5 сакавіка, але ўзнікла занепакоенасць, што мясцовая ўлада можа скарыстаць гэтае мерапрыемства, каб развязаць канфрантацыю між першаснымі арганізацыямі і каардынацыйным цэнтрам. Ужо на асобных прадпрыемствах рэгіёну робіцца захады з мэтай аднавіць прафсаюзы, «умураваныя ў вертыкаль». Прыкладам, да 40% склаў адсеў грашовых складак у прафсаюзе работнікаў культуры, абкам якога ачольвае прыхільніца паслушэнства скандальнай пастанове Саўміну Яўгенія Уласюк. Не плацяць свае адсоткі і двухтысячны калектыў мікашэвіцкага «Граніту».

Многія не ўяўляюць, што забарона на безнаяўны збор прасаюзных складак стварае вялікія праблемы, асабліва ў сацыяльнай абароне. Брэсцкі галіновы прафсаюз працаўнікоў адукацыі і навукі накіраваў прэм'ер-міністру Г.Навіцкаму пісьмовы зварот з напамінам, што па ягонай волі ў рэгіёне скасоўваюцца стыпендыі студэнтам і навучэнцам 6 вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў. Недахоп фінансавых сродкаў не дазволіць таксама правесці студэнцкую спартакіяду, турыстычныя злёты, фестывалі мастацкай самадзейнасці. У значнай меры згорнецца праца з ветэранамі педагагічнай галіны.

Паводле рэзалюцыі свайго сходу па пастанове Саўміну №1804 Брэсцкае абласное аб'яднанне прафсаюзаў будзе весці агітацыйную кампанію да акцыі пратэсту пад лозунгамі «Не – росту цэнаў! За годны ўзровень жыцця! Не - прававой сваволі!»

**Галіна БАРАВАЯ**

# Зімовыя браканьеры

Каля тысячы выпадкаў парушэння правілаў рыбалоўства выяўлена Дэпартаментам аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёл Мінпрыроды ў студзені гэтага году.

У параўнанні з леташнім студзенем колькасць выпадкаў браканьерства павялічылася на 99, паведамляе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі. Інспектары здалі ў гандлёвую сетку 75 кілаграмаў незаконна вылаўленай рыбы.

**Марат ГАРАВЫ**

# Мальдзіс у Карлавым універсітэце

19 лютага ў пражскім Карлавым універсітэце адбылася лекцыя знакамітага беларусіста прафесара Адама Мальдзіса. Лекцыя мела назву «Беларуская прысутнасць у свеце». Гэта была першая лекцыя новага курсу «Уводзіны ў беларусістыку», які мае даць імпульс да адкрыцця ў наступным навучальным годзе самастойнай спецыяльнасці «Беларусістыка».

Лекцыя выклікала вялікую цікавасць як у студэнтаў універсітэту, так і ў выкладчыкаў і навукоўцаў. Лекцыі гэтага курсу будуць адбывацца штотыднёва, і наступная будзе прысвечана феномену Віцебску ў 1916-1926 гадах. Чытаць яе будзе Сяргей Харэўскі.

**Беларускі цэнтр у Празе**

## НАШЫ САПЁРЫ



Ваенны аташэ канадскага пасольства ў Расіі і Беларусі Дэніс Абраен перадае камандзіру перасоўнай групы размініравання адзін з 20 мінашукальнікаў, падораных Беларусі Канадай, агульным коштам 50 тысяч доляраў. Але ж мінаў у нас небагата, а скарбаў багата!

# Страхаванне фінансавай рызыкі

У Беларусі існуе рэальная патрэба ў страхаванні фінансавых рызыкаў суб'ектаў гаспадарання. Пра гэта 19 лютага на сустрэчы з журналістамі ў Мінску паведаміў Віктар Шуст – генеральны дырэктар дзяржаўнай страхавой арганізацыі «Белдзяржстрах», на долю якой прыпадае да 60 працэнтаў страхавога рынку краіны.

Паводле яго слоў, у такім відзе абароны сёння маюць патрэбу пераважна дзяржаўныя прадпрыемствы, якія вырабляюць і пастаўляюць прадукцыю, але сутыкаюцца з праблемамі яе аплаты. Шырокае развіццё атрымліваюць на беларускім рынку і іншыя новыя віды страхавання, у першую чаргу страхаванне адказнасці перад трэцімі асобамі. Прыкладам можа служыць страхаванне адказнасці суб'екта гаспадарання як крыніцы павышанай небяспекі. Акрамя таго, можа страхавацца і прафесійная адказнасць. Гэта адбываецца ў тым выпадку, калі работнікі асобных спецыяльнасцяў з-за спецыфікі прафесіі могуць прычыніць шкоду трэцім асобам і маюць патрэбу ў страхавой абароне (напрыклад, адвакаты, урачы, натарыусы і прадстаўнікі шэрагу іншых прафесій). Многія беларускія страхавыя кампаніі такое страхаванне ўжо праводзяць.

Як адзначыў Шуст, праблем у развіцці сістэмы айчыннага страхавання «яшчэ больш чым дастаткова». Галоўнае – стварыць у Беларусі эфектыўную сістэму страхавой абароны, каб узровень пакрыцця шкоды адпавядаў рэальным стратам, а беларускія страхоўшчыкі маглі забяспечыць любую страхавую абарону, прычым комплексную. Для прадпрыемстваў гэта павінна быць страхаванне жыцця і здароўя работнікаў, непасрэдна працэсу вытворчасці, страхаванне асноўных фондаў вытворчасці і фінансавых рызыкаў. Для стварэння такой комплекснай сістэмы, паводле слоў кіраўніка «Белдзяржстраху», патрабуецца каардынацыя і больш цеснае супрацоўніцтва страхавых арганізацый, якіх у Беларусі больш чым тры дзесяткі.

**Аляксей АРЭШКА**

# Беларуская сенсацыя










*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

На самалёце раней за нас палятуць яны. Брамнік шведаў Томі Сало, які да гэтай гульні прэтэндаваў на званне найлепшага галкіпера алімпіяды, прапусціў болей шайб, чым ва ўсіх папярэдніх гульнях разам узятых. Па кідках беларусы прайгралі больш чым у два разы – 19:47, але затое якая рэалізацыя! І цяпер нашых чакаюць яшчэ дзве гульні! Паўфінал з канадцамі, якія перамаглі ў чвэрцьфінале фінаў — 2:1, і альбо гульня за трэцяе месца пасля паразы ад канадцаў, альбо гульня ў фінале.

Тое, што здарылася, падобна да сну. Самы малады ў беларускай зборнай Дзмітрый Дудзік, якому дваццаць чатыры гады, да Алімпіяды выступаў у мінскім хакейным клубе «Керамін». Думаецца, цяпер яго чакае неблагі кантракт як мінімум дзе-небудзь у тых жа Швецыі ці Расіі.

Мабыць, усе хакеісты разумелі, што гульня са шведамі – магчыма, іхняя апошняя ў жыцці гульня на такім узроўні. У Беларусі даўно і настойліва гучаць галасы за абнаўленне хакейнай зборнай, але цяпер, думаецца, з гэтым прыйдзецца пачакаць. Хлопцы даказалі сваё права на месца ў асноўным складзе. Як кажа вядомая спартовая прыказка, «парадак б'е клас», і ўчора нашы выразна гэта прадэманстравалі. І нават калі ўсе астатнія гульні беларусы прайграюць, усё роўна яны застануцца героямі гэтай Алімпіяды. Асабліва Копаць з яго неверагодным голам. Ды ўсе аўтары галоў: Алег Раманаў, Дзмітрый Дудзік, Андрэй Кавалёў, Уладзімір Копаць.

Памятаецца, сёмага чэрвеня 1995 году беларуская футбольная зборная дзякуючы голу Сяргея Герасімца неверагодна перамагла галандцаў — 1:0. Цяперашняя перамога над шведамі адсунула тую даўнюю сенсацыю на другое месца. І няхай яна будзе не апошняя!!!

Напярэдадні гэтай пераможнай сустрэчы беларускім алімпійцам удалося заваяваць на Алімпіядзе і свой першы медаль. Ім стала бронза Аляксея Грышына ў фрыстайле. Нават калі болей беларускія спартсмены не заваююць нічога, усё роўна Беларусь выступіла на Алімпіядзе годна. Але кожная перамога вымагае намаганняў да новай, тым болей цяпер, калі прынеслі славу радзіме і пераўтварылі ў балельшчыкаў увесь беларускі народ.

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Амерыканцы інспектуюць Мінск

*Сёння заканчваецца візіт дэлегацыі Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША ў Беларусь. Дэлегацыя, якую ачольвае намеснік памочніка дзяржсакратара Стывен Пайфер, праводзіць ацэнку сітуацыі ў Беларусі з пункту гледжання выканання крытэрыяў АБСЕ.*

Высокія амерыканскія чыноўнікі правяраюць не толькі, як Беларусь выконвае вядомыя чатыры ўмовы АБСЕ – як забяспечваецца празрыстасць выбарчага працэсу, свабода слова, пашырэнне ўладных функцыяў Нацыянальнага сходу і ўсталяванне свабоднага ад рэпрэсіяў палітычнага клімату. Іх таксама вельмі непакоіць праблема паставак беларускай зброі за мяжу і вайсковага навучання прадстаўнікоў дзяржаваў і арганізацыяў, якія разглядаюцца Амерыкай як «недружалюбныя».

Учора С.Пайфер праводзіў цэлы шэраг сустрэчаў з беларускімі палітыкамі і дзеячамі. У ягоных планах былі перамовы з кіраўніком прэзідэнцкай адміністрацыі Уралам Латыпавым, міністрам замежных справаў Міхаілам Хвастовым, міністрам абароны Леанідам Мальцавым, прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, жонкамі зніклых і зняволеных палітыкаў, лідэрамі палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў.

Аднак на момант здачы нумару ў друк мы мелі пацверджанні толькі часткі гэтых сустрэчаў. Дакладна адбыліся перамовы дэлегацыі Дзяржддэпартаменту са старшынёй Цэнтрвыбаркаму Лідзіяй Ярмошынай. Адбылася сустрэча С.Пайфера з беларускімі апазіцыйнымі палітыкамі – лідэрам Беларускага Народнага Фронту Вінцуком Вячоркам, былым старшынём Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімірам Ганчарыкам, старшынём Партыі камуністаў Беларускай Сяргеем Калякіным, старшынём Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалаем Статкевічам і былым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.

Стывен Пайфер сустрэўся таксама з жонкамі зніклых і рэпрэсаваных палітыкаў і дзеячаў – Ірынай Красоўскай, Святланай Завадскай і Таццянай Клімавай. Як перадае прэс-цэнтр «Хартыі'97», падчас сустрэчы абмяркоўвалася сітуацыя з расследаваннем у Беларусі «гучных справаў», якую бакі ахарактарызавалі як песімістычную – версія аб палітычным выкраданні апанентаў рэжыму не расследуецца, а на іхнія сем'і чыніцца псіхалагічны ціск, у сувязі з чым сям'я Генадзя Карпенкі мусіла пакінуць краіну. Была адзначаная падтрымка, якую аказвае рэжыму Лукашэнкі Расія, а паколькі Уладзімір Пуцін у найбліжэйшы час мае намер сустрэцца з Джорджам Бушам, жонкі перадалі прэзідэнту ЗША ліст з просьбай падняць на гэтай сустрэчы пытанне аб палітычных рэпрэсіях у Беларусі.

Падчас сустрэчы з беларускімі палітыкамі амерыканскі дыпламат адзначыў, што не бачыць прыкметы ніякіх зрухаў у справе выканання Беларуссю 4 умоваў АБСЕ. Па іншых словах, перададзеных нам удзельнікамі сустрэчы, ЗША ўхвалілі б любы канкрэтны крок у бок паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Але гэтага не адбываецца.

Па словах С.Пайфера, для Беларусі ўсе чатыры патрабаванні АБСЕ – непарушныя ўмовы на шляху да міжнароднага прызнання. На дадатак да іх Злучаныя Штаты выстаўляюць яшчэ пятую – адмову ад гандлю зброяй з краінамі-«ізгоямі». Толькі калі па гэтых пытаннях Беларусь не будзе выклікаць нараканняў міжнароднай супольнасці, тады можа весціся размова пра пашырэнне палітычных сувязяў з краінамі Захаду.

Паводле нашых звестак, пасля сустрэчы з палітыкамі амерыканская дэлегацыя мелася скіравацца да Урала Латыпава. Але ці адбылася з ім сустрэча, дакладна невядома. На нашу спробу высветліць яе лёс, а таксама лёс іншых запланаваных сустрэчаў з прадстаўнікамі афіцыйнага боку, у амерыканскай амбасадзе нам адказалі, што ўсе звесткі будуць абнародаваныя на прэсавай канферэнцыі, якая павінна была адбыцца ўчора ўвечары, ужо пасля здачы нумару ў друк. Не выключана, аднак, што некаторыя беларускія чыноўнікі найвышэйшага рангу проста адмовілі дэлегацыі Дзяржддэпартаменту ў сустрэчы.

Чакалася таксама, што амерыканскі бок зробіць на прэс-канферэнцыі заяву па выніках візіту. У наступным нумары мы абавязкова паведамім вам пра яе. Відавочна, што беларуская ўлада вельмі незадаволеная самім фактам такіх праверак. Маўляў, мы не дзеці, каб нас кантралявалі і сачылі за кожным нашым крокам. Па непацверджаных пакуль звестках, афіцыйны Мінск нават пачынае пагражаць замежным партнёрам сваім выхадам са складу Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

Як вядома, ад пачатку году беларускія ўлады ўсімі сіламі імкнуцца выціснуць з Беларусі кансультацыйна-назіральную групу АБСЕ. У размове з журналістамі *The Wall Street Journal* на гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка заявіў, што, маўляў, тэрмін працы місіі скончыўся, і цяпер яе трэба альбо адпраўляць «на радзіму», альбо сумесна выпрацоўваць новыя ўмовы для яе знаходжання тут.

Агенцтва «*Інтерфакс*» паведамляе са спасылкай на «дасведчаныя крыніцы з беларускага міністэрства замежных справаў», што сталы прадстаўнік Беларусі пры АБСЕ амбасадар Віктар Гайсёнак накіраваў на адрас старшыні АБСЕ заяву. З яе тэксту вынікае, што Мінск «крытычна» ставіцца да дзейнасці Парламенцкай асамблеі АБСЕ, кіраўніцтва якой, на думку Беларусі, дапускае «праяву падвойных стандартаў і адкрыты прававы нігілізм, пагарду да дакументаў, прынятых самой Парламенцкай асамблеяй».

Гэтая жорсткая заява выкліканая тым фактам, што на апошняе паседжанне ПА АБСЕ, якое праходзіць цяпер у Вене, не былі запрошаныя прадстаўнікі афіцыйнага Мінску. Аднак прадстаўнікі ад апазіцыйных партыяў у Вену паехалі – іх, у адрозненне ад «палатачнікаў», туды запрасілі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## НАЎПРОСТ

**Пытанне на брыфінгу 21 лютага прадстаўніку МЗС:**

Ці можаце Вы пацвердзіць, што Сталы прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у АБСЕ Віктар Гайсёнак 20 лютага г.г. зрабіў заяву з нагоды ўдзелу дэлегацыі Беларусі ў парламенцкай асамблеі АБСЕ? Які характар гэтай заявы? З'явілася інфармацыя, што Беларусі плануе выйсці з АБСЕ, як вы гэта можаце пракаментаваць?

**Адказ начальніка ўпраўлення інфармацыі – прэс-сакратара МЗС Паўла Латушкі:**

Сапраўды, на паседжанні Пастсавета АБСЕ 20 лютага Сталым прадстаўніком Беларусі пры АБСЕ Віктарам Гайсёнкам зроблена заява ў сувязі з удзелам нашай дэлегацыі ў ПА АБСЕ.

У Заяве гаворыцца, што згодна з п. 1 Правілаў працэдуры «Асамблея складаецца з чальцоў парламентаў, якія прадстаўляюць краіны, што падпісалі Хельсінскі Заключны акт і Парыжскую хартыю і ўдзельнічаюць у Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе». У парушэнне гэтых правілаў з 1997 году Нацыянальны сход Беларусі пазбаўляецца права ўдзелу ў працы Асамблеі. Парламент Беларусі з'яўляецца адзіным законна абраным органам заканадаўчае ўлады ў краіне і павінен заняць належнае яму месца ў Парламенцкай асамблеі АБСЕ.

Сапраўды, мы лічым, што кіраўніцтва ПА АБСЕ заняло неканструктыўную пазіцыю. У нас выклікае здзіўленне той факт, што кіраўніцтва ПА АБСЕ не праяўляе гатоўнасці да дыялогу з кіраўніцтвам беларускага парламенту.

Разам з тым рашэнне пра сяброўства Беларусі ў АБСЕ на эмацыйным узроўні намі прымацца не будзе. Гэта пытанне занадта сур'ёзнае, каб яго сёння абмяркоўваць.

# Польская канстытуцыя на варце правоў беларуса

20 лютага Варшаўскі акруговы суд адмовіўся выдаваць Беларусі вядомага прадпрымальніка Вацлава Маркевіча.

Паседжанне суду некалькі разоў адкладалі, бо не хапала часу на тое, каб выслухаць усіх сведкаў і пазнаёміцца з новымі дакументамі, прадстаўленымі адвакатамі Маркевіча (у яго падтрымку даслалі лісты сем беларускіх апазіцыянераў, у тым ліку лідэры трох найбуйнейшых апазіцыйных партыяў). І суддзя, і пракурор досыць падрабязна апыталі сведкаў і прысутных на паседжаннях прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэту.

У выніку ў суддзі Малгажаты Ленярскай, якая ў канцы снежня падпісала дазвол на арышт Маркевіча на падставе запыту беларускай пракуратуры, не засталося сумненняў: экстрадыцыя бізнесмена, зыходзячы з нормаў польскага права, – недапушчальная.

Як мяркуе суддзя, у выніку экстрадыцыі В.Маркевіч быў бы пазбаўлены права на справядлівы працэс, якое гарантуе польская канстытуцыя і Еўрапейская канвенцыя аб абароне правоў чалавека.

Знамянальна, што ў той самы дзень – 20 лютага – прадстаўнік польскіх уладаў выказаў аналагічную пазіцыю ў дачыненні да Беларусі. Падчас сустрэчы ў Кіеве кіраўнікоў службаў бяспекі Беларусі, Польшчы, Расіі і Украіны шэф прэзідэнцкага Бюро нацыянальнай бяспекі Польшчы Марэк Сівец выказаў сакратару Рады бяспекі Беларусі Генадзю Нявыгласу адмоўнае стаўленне Польшчы да парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Расійская Дума пацягнула грамадзянства за язык

Дзяржадума прыняла ў другім чытанні закон «Аб грамадзянстве». Цяпер расійскае падданства змогуць атрымаць толькі тыя, хто добра ведае расійскую мову. А грамадзяне былога СССР пазбаўляюцца ўсялякіх ільготаў.

Па словах намесніка старшыні камітэту па дзяржаўным будаўніцтве Барыса Надзеждзіна, сярод адхіленых паправак была ініцыятыва шэрагу суб'ектаў федэрацыі, якія прапанавалі аднавіць «рэспубліканскае» грамадзянства. А гэта супярэчыць расійскай Канстытуцыі. Такую папраўку ўнёс быў Дзяржсавет Татарстану. «Калі б грамадзянства Башкартастану або Татарстану было рытуальным, гэта было б паўбяды. Праблема ў тым, што аб'ём правоў і свабодаў у гэтых суб'ектах федэрацыі наўпрост залежыць ад таго, ці з'яўляецца чалавек, які жыве ў гэтай рэспубліцы, грамадзянінам Расіі або грамадзянінам рэспублікі, якая ўваходзіць у склад Расіі», — заявіў Надзеждзін. На гэта адзін з аўтараў папраўкі заўважыў, што калі гэтае прапановы не прымуць, Татарстан увогуле «адмовіцца ад федэрацыйнага ладу расійскай дзяржавы, а таксама ад двух артыкулаў у Канстытуцыі».

Па словах Барыса Надзеждзіна, паступілі прапановы даваць грамадзянства найперш расейцам. Зрэшты, другія аўтары паправак настойвалі на тых жа льготах для «прадстаўнікоў карэнных нацыянальнасцяў». Хоць гэтыя папраўкі таксама разыходзіліся з існуючымі заканадаўчымі нормамі.

Далей дэпутаты пачалі разглядаць і другую табліцу паправак. У прыватнасці, цяпер грамадзянства можна будзе атрымаць толькі пасля экзамену па расійскай мове. Згодна з гэтым пунктам закону, валоданне расійскай мовай будзе адной з умоваў атрымання расійскага грамадзянства.

# Не дасць памерці працатэрапія

У выніку апошніх кадравых перастановак пад выглядам скарачэння раздзьмутага штату ў Брэсцкім аблвыканкаме аб'ядналі ў адзіную дзве асобныя раней структуры – камітэт па працы і ўпраўленне сацыяльнай абароны. Кіраўніком новага камітэту па працы і сацыяльнай абароне прызначаны Пётр Яцкевіч. На Брэстчыне ён вядомы тым, што ачольваў 9.09.2001 абласную тэрытарыяльную выбарчую камісію, а цяпер уведзены ў склад ярмошынскага Цэнтрвыбаркаму. Чыноўніку, які дакляраваў быў электарату заможнае жыццё ў старасці, прапанавана агромністае поле дзейнасці. На Брэстчыне па стане на 1 лютага 2002 году налічваецца 365 600 пенсіянераў. І таму, нават без уліку адстаўнікоў МУС, КДБ і УС (гэта людзі, як той казаў, асаблівага ўліку і памераў грашовых выплатаў), практычна кожны чацвёрты жыхар – пенсіянер.

Каб чарговым разам не варушыць гаротнай статыстыкі заўчаснага адыходу старых у небыццё з-за самагубстваў, гібелі праз неасцярожнасць на папялішчы ўласнага жытла, забойстваў ад рукі сквапных дзяцей, унукаў, зладзеяў і гвалтаўнікоў, абмяжуемся ўжо звыклым у нашым грамадстве слоўным штампам: агульная колькасць памерлых перавышае колькасць нованароджаных. На Брэстчыне дэмаграфічны адток забірае штогод больш як 19 тысяч чалавек. На што ў такім разе застаецца спадзявацца жывым, якія намагаюцца адтэрмінаваць гадзіну свайго развітання з белым светам, нават калі той абмяжоўваецца бездарожжам ля роднай вёскі і сляпымі вокнамі ў суседніх хатах?

За наватарскі вопыт абуджэння глухіх мясцінаў на Брэстчыне падаецца адкрыццё 44 дамоў сацыяльных паслугаў. За шыльдай з такой назвай звычайна хаваецца стары сельскі клуб, былая васьмігодка альбо кантора разваленага калгасу. За скупыя сродкі латаюць дзіркі ў даху, ставяць цагляную печ і вешаюць на старыя дзверы новы замок. Ключніцамі, як правіла, прызначаюць бібліятэкарак. Сярод беспрацоўнай вясковай інтэлігенцыі іх цяпер найбольш. Каб зарабіць пенсію, яны ідуць пільнаваць за паўстаўкі састарэлы кніжны фонд, аптэчны запас экстранных лекаў і загадзя пакінутых на продаж вянкоў і дамавінаў.

У гарадах вобласці таксама адчыніліся 10 цэнтраў сацыяльных паслугаў. Лічыцца, што яны эканомяць бюджэтныя сродкі, бо абслугоўванне аднаго чалавека па месцы яго жыхарства абыходзіцца ў 20 разоў танней, чым пражыванне ў доме-інтэрнаце. Праз цэнтры сацпаслугаў размяркоўваецца зараз так званая адрасная дапамога. У дзяржаве рынкавага сацыялізму нарэшце прызналі, што існуе сацыяльны слой настолькі бедных людзей, што ўратаваць іх ад голаду немагчыма без даплаты на харчаванне. На Брэстчыне гэты кантынгент летась вызначылі ў 10,5 тысяч чалавек і выплацілі на ўсіх з фонду сацабароны 53 мільёны рублёў – у сярэднім не больш як па 5 тысяч рублёў на аднаго бедняка. На жаль, сёлета і на гэта не даводзіцца спадзявацца, бо з-за крытычнага фінансавага становішча вобласці запазычанасць прадпрыемстваў прамысловасці і аграрнага сектару дасягнула ў лютым 7 мільярдаў рублёў. Многія гаспадаркі дагэтуль не выплацілі сваім працаўнікам зарплату за снежань. А няма зарплаты – няма і адлічэнняў у пенсійны фонд. Пытанне, дзе калгасы напярэдадні пасяўной адшукаюць сродкі, каб заплаціць людзям, застаецца адкрытым.

Праблемы абмежаванага фінансавання не абмінаюць сацыяльных прытулкаў для хворых і адзінокіх. У Беларусі 78 дамоў-інтэрнатаў. І, прыкладам, у адным з іх, што ў вёсцы Дамачава Брэсцкага раёну, пашыраюць уласную сельскую гаспадарку. Акрамя фермаў, дзе гадуюць свіней і буйную рагатую жывёлу, дояць кароў, аднавілі цяпліцу, хутка пачнуць капаць грамадскі агарод.

**Галіна БАРАВАЯ**




# У Баравусе будзе СЭЗ

Пасля вываду з пасёлку Баравуха, што паміж Полацкам і Наваполацкам, некалькіх вайсковых часцей, у тым ліку 350-й асобнай брыгады мабільных сілаў, апрача іншых праблемаў, узнік дэфіцыт працоўных месцаў для былых вайскоўцаў і іх сем'яў. Каб вырашыць гэтую праблему, гарадскія ўлады Наваполацку, у падпарадкаванне якім трапіла тэрыторыя паселішча, просяць урад стварыць у Баравусе свабодную эканамічную зону. Яны спадзяюцца, што льготнае падаткаабкладанне, якое ўводзіцца ў свабодных эканамічных зонах, паспрыяе стварэнню ў Баравусе новых прадпрыемстваў, прыцягне інвестыцыі і створыць дастаткова працоўных месцаў. Старшыня пасялковага савету ў Баравусе Алег Захарэнка таксама спадзяецца на стварэнне ў будынках былых вайсковых часцей 4–6 новых прадпрыемстваў, якія дадуць працу 350–400 жыхарам паселішча, а таксама на магчымае размяшчэнне на гэтай тэрыторыі мытнага тэрміналу, зацікаўленасць у чым выказалі прадстаўнікі ўладаў расійскага гораду Адзінцова падчас нядаўняга візіту. Найбольш верагодным, аднак, стаўся праект размяшчэння ў будынках, занятых цяпер верталётным палком, Наваполацкай вучэльні алімпійскага рэзерву (вывад палка запланаваны на 30 красавіка). Паводле словаў Алега Захарэнкі, вучэльня ўжо зараз заняла некалькі памяшканняў на тэрыторыі былой брыгады мабільных сілаў, а заняткі ў ёй пачнуцца з 1 верасня. Улетку на гэтых плошчах плануецца арганізаваць летнік для спартсменаў на 200-300 чалавек. Усё гэта разам дае надзею на вырашэнне праблемаў Баравухі. Пакуль што, паводле інфармацыі Наваполацкага гарвыканкаму, летась з гарадскога бюджэту ў разліку на аднаго жыхара Баравухі выдзелілі сродкаў у некалькі разоў болей, чым у сярэднім на аднаго гарадскога жыхара.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Кітай-вёскі забываюць пра калгас

Незабыўны Уладзімір Караткевіч некалі ў сваёй вандроўцы з сябрамі на плыце па Прыпяці быў вельмі ўражаны, наведаўшы вёску Рубель, што на Століншчыне. У прарочым творы «Зямля пад белымі крыламі» пісьменнік назваў гэтае паселішча Пагарыння найбуйнейшаю вёскай на Беларусі – у 1980-я тут налічвалася да 8,5 тысяч жыхароў. Шкадаваў шаноўны госць, што тутэйшы калгас – уладальнік зямлі – не ўсіх забяспечвае працаю, і майстры-палешукі разыходзяцца з райскага кутка сваёй Бацькаўшчыны па свеце.

Але цяпер у столінскім Рублі жыхарства расце. Тутэйшы сельсавет штогод наразае па чатыры дзесяткі надзелаў пад індывідуальнае будаўніцтва. А непадалёк расце, бы на дражджах, яшчэ адна кітай-вёска – Альшаны. Не патрэбная даўней калгасу, яна цяпер гэтаксама забываецца на яго. Хоць на каленях прасі, хоць мацюкамі крый – ніхто і чуць не жадае пра падзёншчыну ў калгасе, хоць уся «цяплічная рэспубліка» шчыруе да сёмага поту на папраўдзе катаржнай працы. Пачынаецца новы сезон вырошчвання ранніх агуркоў пад плёначнымі галерэямі больш як 1 500 парнікоў і цяпліцаў.

Нішто не пераконвае лепш за мову лічбаў: заможнае жыццё беларусаў – у супрацьлеглым ад калектывізацыі баку. За прыбыткі ад продажу агуркоў альшанцы набылі 500 легкавых і 137 грузавых аўтамабіляў, 62 трактары. Хапае сродкаў, каб добра апранацца і без страху за будучыню нараджаць дзяцей. У Альшанах зараз 435 шматдзетных сем'яў, а 41 жанчына мае ганаровае званне маці-гераіні. Школа стала зацесная для 1 362 вучняў, таму зроблены праект будаўніцтва яшчэ адной – на 869 месцаў. У вёску, дзе народ працуе для сябе, вярнуліся чатыры сям'і з ЗША, пяць – з краінаў Прыбалтыкі, шэсць – з Расіі.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Ці будзе АЭС у Беларусі?

*Неабходнасць будаўніцтва ў Беларусі АЭС усё яшчэ не страчвае актуальнасці, бо канчатковага рашэння пра атамную перспектыву краіны дагэтуль не прынята.*

Пытанне «Быць ці не быць АЭС у Беларусі?» – апошняе ў доўгім ланцужку развагаў пра забяспечанасць энергарэсурсамі, пра састарэлыя тэхналогіі і неабходнасць энергазберажэння, а таксама пра недахоп уласных сродкаў і залежнасць Беларусі ў энергетычным плане. Сапраўды, уласнымі сродкамі забяспечыць усе свае патрэбы сёння Беларусь не можа.

«Нават калі браць пад увагу ўсе нашыя энергетычныя магчымасці, у тым ліку торф, нафту, дрэва, то ўсё гэта разам пакрые толькі 20-21% патрэбаў, – кажа намеснік старшыні Камітэту па энергаэфектыўнасці пры Савеце міністраў Беларусі Віктар Федасееў. – 80-85% таго, што нам трэба, мы экспартуем з-за мяжы. У Беларусь з Расіі мы завозім вугаль, мазут, газ, а таксама электраэнергію з Літвы. Набываць энергарэсурсы нам цяпер выгадней, чым вырабляць іх самастойна», – кажа Федасееў.

Дзяржаўнае рэгуляванне і частковы ўвод рынкавых стасункаў у гэтай сферы пакуль што даюць рады недахопу ўласных сродкаў. Варта яшчэ дадаць не рэалізаваны цалкам патэнцыял энергазберажэння, які спецыялісты ацэньваюць прыкладна ў 40%.

Аднак пры гэтым чыноўнікі абмовіліся, што «існуюць пэўныя ведамствы, якія лабіруюць ідэю будаўніцтва АЭС у Беларусі». Як мне патлумачылі ў Камітэце па энергаэфектыўнасці, у гэтым пытанні сутыкаюцца два інтарэсы – ведамасны і дзяржаўны. Ведамствам, за якімі стаяць інстытуты, навукоўцы, распрацоўшчыкі атамнай канцэпцыі, было б выгадней збудаваць станцыю (чалавек у такім выпадку – зусім не мера ўсіх рэчаў). І існуе інтарэс дзяржавы, замацаваны яшчэ на пачатку 90-х гадоў, пра які і дбае Камітэт па энергаэфектыўнасці пры Савеце міністраў.

У камітэце лічаць: атамная энергетыка Беларусі да 2025-2030 гг. не патрэбная. Бо сёння разам з пытаннем будаўніцтва АЭС узнікае шэраг іншых: фінансаванне будаўніцтва, гарантыі экалагічнай бяспекі і надзейнасці, падбор пляцоўкі і г. д. Акрамя таго, ядравая энергетыка – гэта не толькі атамныя станцыі, але і цэлы комплекс прадпрыемстваў, звязаных з вырабам ядравага паліва, яго перавозкай, захаваннем і перапрацоўкай апраменьваючых матэрыялаў, утылізацыяй і выкарыстаннем радыеактыўных адкідаў.

«Сапраўды, атамная энергетыка патрабуе вялікіх выдаткаў. У Беларусі няма свайго паліва, якое давядзецца закупляць, няма грошай на рэалізацыю праектаў ды адпаведных умоваў. Адным словам, будаўніцтва АЭС рэспубліка на сённяшні дзень сабе дазволіць не можа», – кажуць у камітэце.

Нягледзячы на ўсе аргументы «супраць», нават на такім высокім узроўні, справа з будаўніцтвам станцыі на гэтым не вычэрпваецца. За адцягваннем часу паўстае небяспека таго, што грамадская думка схіліцца на карысць развіцця атамнай энергетыкі. Таму галоўнай задачай на сёння застаецца ўсебаковае крытычнае асэнсаванне праблемы грамадствам. Бо праз 20-25 гадоў, калі тэрмін немэтазгоднасці будаўніцтва будзе вычарпаны, мы можам застацца нясведамымі ў атамных пытаннях. Памылімся цяпер – будзем мець вялікія праблемы ў будучыні.

Ад вырашэння пытанняў будаўніцтва атамнай электрастанцыі залежаць таксама аўтарытэт, імідж і перспектывы беларусаў на міжнароднай арэне. Таму сённяшняя сітуацыя вымагае не імправізацый на ядравую тэму, а грунтоўнага падыходу і разумнай палітыкі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# «Герой працы» на раздарожжы

Вучнёўскія сшыткі Добрушскай папяровай фабрыкі «Герой працы» знаёмыя, бадай, кожнаму беларусу, які вучыўся ў школе. Аднак апошнімі гадамі фабрыка (цяпер акцыянернае таварыства) патрапіла ў складанае становішча.

Працуе яна на прывазной і так званай давальніцкай сыравіне. З яе выробляецца папера, а пасля – уся астатняя прадукцыя, у тым ліку і сшыткі.

Высокія падаткі на дабаўленую вартасць, мыты на сыравіну, якія перавышаюць сам яе кошт, статыстычнае дэкляраванне ўвозу расійскай сыравіны, тарыфы на энерганосьбіты зрабілі сваю справу. Расійскім прадпрымальнікам стала нявыгадна не толькі перарабляць на фабрыцы сваю сыравіну, але і проста пастаўляць яе ў Добруш.

Да таго ж фабрыка не можа абысціся без інвестыцыяў, патрэбных на аднаўленне паперарабочых машын.

Зусім нядаўна да папяровай фабрыкі ў Добрушы праявіў цікавасць Калінінградскі цэлюлозна-папяровы камбінат «Цэпрус». Ён гатовы быў нават пайсці на стварэнне супольнага прадпрыемства, прычым разам з акцыянерным таварыствам «Гомельшпалеры».

– Аднак расійцаў, – удакладніла намесніца дырэктара папяровай фабрыкі ў пытаннях эканомікі Валянціна Карэба, – цікавіла ў нас толькі адна машына для вырабу паперы.

Дзеля адной паперарабочай машыны калінінградцы былі гатовыя на ўсё. Іншыя машыны, а тым больш цэхі, у прыватнасці сшыткаў і тавараў шырокага ўжытку, дзе агулам працуюць звыш тысячы дабрушан, расійскіх інвестараў не цікавілі.

Не пераканала іх і тое, што акурат згаданая машына забяспечвае паперай цэлыя два цэхі. Без яе людзі проста пазбавяцца працы. А калі фабрыка стане, то і бюджэт раёну скароціцца амаль на тры чвэрці падаткаў. Папяровая фабрыка нават у большай ступені, чым парцэлянавы завод, – прадпрыемства, на якім трымаецца райцэнтр.

Улічыўшы ўсё гэта, кіраўніцтва фабрыкі на чале з дырэктарам Уладзімірам Шульгой вырашыла адмовіцца ад расійскай прапановы.

Быў у дабрушан і яшчэ адзін варыянт выхаду з цяжкага эканамічнага становішча – падпарадкаваць фабрыку Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту. Нават міністр адукацыі Пётр Брыгадзін ухваляў такі варыянт. У адмысловым лісце ў аблвыканкам ён згадваў, што дабрушане маглі б выпрацоўваць афсетную паперу для навучальнай установы, тыя ж агульныя сшыткі, друкаваць розную літаратуру.

Ад пераходу з канцэрну «Белпаперапрам» пад крыло Белдзяржуніверсітэту дабрушане мелі б пэўныя выгады: тут меншыя падаткі і болей сродкаў для мадэрнізацыі паперарабочых машын, выплаты даўгоў.

Аднак варыянту супрацоўніцтва з БДУ запярэчылі юрысты. У акцыянернага таварыства «Добрушская папяровая фабрыка «Герой працы» пятая частка акцыяў належыць калектыву, наўпрост прыватнікам. І гэта, на думку юрыстаў, не пасуе універсітэту, як цалкам дзяржаўнай установе.

Яшчэ больш пратэстуюць фінансісты. Начальнік фінансавага ўпраўлення Гомельскага аблвыканкаму Андрэй Круглей паведаміў, што ад пераводу папяровай фабрыкі ў склад Белдзяржуніверсітэту добрушскі раённы бюджэт не атрымае сёлета 600 мільёнаў рублёў падаткаў, а абласны – 200 мільёнаў.

У выніку «Герой працы» застаўся пакуль на раздарожжы.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Прадпрымальнікі прапануюць дапамогу ўраду

«Беларускі бізнес, як і любы іншы, наогул не мае патрэбы ні ў якой дзяржаўнай падтрымцы. Адзінае, што патрэбна для развіцця бізнесу, гэта нізкія падаткі і канкрэтна ўстаноўленыя празрыстыя правілы гульні». Такую заяву зрабіў старшыня выканкаму рэспубліканскай грамадскай арганізацыі «Альтэрнатыва-XXI» Сяргей Балыкін, выступаючы 20 лютага на пасяджэнні Мінскага сталічнага прэс-клубу. Пасяджэнне было прысвечана развіццю і падтрымцы беларускага прадпрымальніцтва. Паводле слоў С.Балыкіна, пасля заяў чыноўнікаў самага высокага рангу аб маючай адбыцца лібералізацыі эканомікі ў прадстаўнікоў беларускага бізнесу ўзніклі «пэўныя надзеі». «Але, на жаль, за мінулы год адзіным рэальным рухам у бок лібералізацыі можна назваць толькі нядаўні дэкрэт прэзідэнта № 3 аб рэгуляванні мінімальнай заработнай платы», – сказаў Балыкін.

Неўзабаве ў дэпартаменце па прадпрымальніцтве Міністэрства эканомікі плануецца правесці вялікае пасяджэнне па развіцці прадпрымальніцтва. Паводле слоў намесніка генеральнага дырэктара Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) і Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Віталя Сяўрукевіча, днямі БНПА прадставіла свае прапановы, што прапануе ўлічыць пры распрацоўцы стратэгіі працы гэтага дэпартаменту. Сутнасць прапаноў зводзіцца да стварэння зразумелых і роўных умоў для суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці.

Як адзначыў прэзідэнт Мінскага сталічнага саюзу прадпрымальнікаў і работадаўцаў Уладзімір Карагін, размова аб падтрымцы прадпрымальніцтва вядзецца ў Беларусі ўжо на працягу 15 гадоў. На яго думку, лібералізацыя – «гэта не проста лозунг, а аб'ектыўная патрэба і жыццёвая неабходнасць».

Прадпрымальніцкія арганізацыі, паводле слоў Карагіна, гатовыя аказаць практычную дапамогу гэтым структурам, што будуць прадпрымаць практычныя крокі ў гэтым кірунку. Разам з тым ён хацеў бы бачыць большую актыўнасць па аб'яднанні ў саюзы з боку саміх прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў. У буйных прадпрымальніцкіх аб'яднаннях больш шансаў быць пачутымі, лічыць У.Карагін.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Музыка «Старога Ольсы»

*Гурт «Стары Ольса» грае сярэднявечную музыку і будзе адкрываць «Рок-каранацыю'2001». Зусім верагодна, што ён пераможа ў намінацыі «Традыцыя і сучаснасць».*

«Стары Ольса», заснаваны ў 1999 годзе, набывае статус элітарнага, бо кіраўнік мае добры падмурак досведу па гісторыі, фальклоры і музыцы. Зміцер Сасноўскі, загадчык арганізацыйнага аддзелу згуртавання «Бацькаўшчына», распавядае пра шляхетныя традыцыі.

***— Многія музыкі імкнуцца быць гіперсучаснымі, а вы наадварот — звяртаецеся да старажытнае традыцыі. Гэта з любові да даўніны ці таму, што там, у далечыні часу, застаецца нешта нескарыстанае?***

— Мне заўсёды падабаліся старыя інструменты. Можна на сінтэзатары падыграць, падабраць, напрыклад, дуду,— не адрозніш ад сапраўднай, але не будзе ў гучанні дыхання інструмента. На жывым інструменце нельга сыграць аднастайна і аднолькава дзве часткі. Праз агіду да апрацаванага фальклору савецкага віду я ніколі не збіраў такія інструменты, як балалайка, гармонік, скрыпка. Гармонік ненавіджу, бо ён выціснуў, знішчыў самы мясцічны беларускі інструмент — дуду. Таму гэта не толькі збор старых рэчаў, гэта эстэтычнае захапленне.

На дадзены момант нашая нацыянальная культура складаецца з сялянскай музыкі, сялянскіх строяў і такога ж кшталту паводзінаў; адно, што мы можам паказаць — гэта беларускую вёску. У той час як у нармальных народаў усё збіраецца разам, сінтэзуецца культура розных стагоддзяў. Напрыклад, латышы і цяпер ганарацца некаторымі шляхецкімі і княскімі элементамі ў вопратцы, а мы, якія гэтым калісьці валодалі, апранаем сялянскія кашулі, каб паказвацца на міжнародных фестывалях. Нацыянальная культура складаецца з розных слаёў насельніцтва: гараджане, духавенства, магнаты, шляхта і сяляне — усе разам. А ў нас дамінуе сялянскі кампанент. І таму імкненне ў нашым нацыянальным уяўленні, кшталце звярнуцца да ганаровых сярэднявечных традыцыяў вылілася ў жаданне граць нешта ваярскае.

***— Узнаўленне старога — няпростая задача. Асабліва ў нас, на вычышчаным полі. Дзе вы бралі неабходны матэрыял?***

— Спачатку шукалі ў фольку, дзе захавалася шмат тэкстаў, варыянтаў, што законсерваваны з часоў вайсковай дэмакратыі, з часоў паходаў, бітваў. Далей тое, што адкрылі нашыя музыказнаўцы В.Скорабагатаў і В.Дадзіёмава — сярэднявечныя беларускія творы.

Немалая частка творчасці — уласная фантазія. Сярэднявечча — жывы час са сваімі легендамі, жорсткасцю, праблемамі. Рэальна гэты час вельмі энергічны, злы, з прымхамі, забабонамі ды інтрыгамі. З-за малой колькасці арыгінальнай музыкі у нашай творчасці шмат суб'ектывізму. Але мы спрабуем адрадзіць дух Сярэднявечча. Гэта вельмі строгая фантазія, бо рамкі ў эпохі ёсць... Яшчэ адной з прычынаў такога выбару сталася нязгода са страчаным міфам. Ва ўсіх народаў ёсць свой нацыянальны міф. У палякаў гэты міф стварыў Генрых Сянкевіч, пазней па яго творах зняў фільмы Ежы Гофман. Ува украінцаў — творы пра Запарожскую Сеч, пра чын казацкі. У Расіі — час Пятра, стварэння імперыі. У нас жа засяродзіліся на сялянскай міфалогіі. Так, яна вельмі багатая, аднак патрэбны сучасны міф, які кранаў бы за жывое не толькі чалавека, што арэ на трактары, але і таго, хто сядзіць за камп'ютэрам, ходзіць усё жыццё па асфальце. Нацыянальны міф мусіць быць узнёслы, нам неабходна асвятліць той час, якім варта найбольш ганарыцца. Наш міф можа палягаць, як кажуць гісторыкі, у часе «Залатога веку» — позняга беларускага Сярэднявечча. Таму мы вітаем стварэнне рыцарскіх клубаў, бо гэта новы беларускі кшталт.

***— Вядома, што вы не толькі збіралі, але і самі рабілі інструменты. Як? Па якіх узорах?***

— Захацелася самаму зладзіць дуду. Доўга не атрымлівалася. Кожны майстар трымае многае ў сакрэце, і мне не хапала ведаў тэхналогіі. Дуда, якая б дакладна строіла, каб быў патрэбны тэмбр, не атрымлівалася шэсць гадоў. Выпадкова адзін майстар выдаў сакрэт: галоўнае — правільна падабраць матэрыял пад язычок (тростку). Патрэбны чарот. Для вырабу дуды неабходная і казіная скура (уплывае на гучанне нават век казы, масць і г.д.). Беларусы рабілі дуду з янота, сабакі, цялячай скуры. Астатнія часткі дуды робяцца з розных пародаў дрэва, найчасцей — з ліпы і клёну. Дуда — старажытны, традыцыйны інструмент, які паўтарае казіны голас. У даўніну казу забівалі, мяса не елі, вешалі на дубе, а і скуру, з якой потым рабілі дуду. Дуда рытуальна ўсталёўвае зносіны са светам ценяў, продкаў. Інструмент быў тут, а перадаваў гукі таго свету, быў абрадавым. У беларускім фальклоры «дуду» разумелі як адно цэлае з дударом. Дудар – гэта быў паганскі святар. Ён вадзіў дуду: не ён іграў – дуда грала. Часам я распавядаю пра валынку, але гэта і ёсць дуда. У беларусаў пад дудой (гэта зборны тэрмін, які азначае шмат духавых інструментаў; паходзіць ад слова «дуць») разумеюць дудку, жалейку, уласна дуду.

***— Што вылучае дуду з іншых інструментаў?***

— Дуда — мясцічны інструмент, які ёсць ува ўсіх еўрапейскіх і некаторых азіяцкіх народаў. У палякаў і балгараў — гэта гайда. Уласцівасць беларускай дуды — выразанне рагаўні з дрэва, а не з рога, своеасаблівае загінанне яе. Другі чын беларускай дуды — дудамацянка, што мае два бурдоны, звычайна ззаду, якія разыходзяцца на два бакі, але не мае рагаўні (там адзін бурдон). Бурдон — тоўстая басавая трубка, што трымае адзін тон, на фоне гуку якой развіваецца астатняя мелодыя.






***— Яшчэ нядаўна панавала думка, што беларуская дуда даўно знікла....***

— З экспедыцый высветлілася, што ў 60-х гадах яшчэ гралі на дудзе на танцах. У 70-80-х з'явіліся майстры, якія пачалі аднаўляць дуду. Гэта Алесь Лось, элітарны майстар, яго інструменты маюць асаблівы кшталт, не фанабэрлівыя, а вельмі ўзнёслыя. Дзіўны гук. Усяго на Беларусі сем майстроў. Гэта У.Грам, В.Кульпін, А.Жура, У.Берберaў, Т.Кашкурэвіч, А.Пузыня і А.Лось. Многія не паважаюць традыцыі і псуюць выгляд дуды (кароткі выступ замест «шыі» і бурдоны на жываце не прымаюцца сапраўднымі майстрамі: трэба, каб яны былі ззаду). Умоўна майстроў можна падзяліць на два лагеры: хто прагне імкнецца адрадзіць традыцыю і хто дзеля тэхнічнай зручнасці парушае гэтую традыцыю. У адной з маіх першых дудаў я зрабіў футра звонку. Майстры смяяліся, але тыя ж экспедыцыі пацвердзілі існаванне і такой формы.

***— А іншыя інструменты якім чынам патрапілі да вас?***

— Рабіць і рэстаўраваць інструменты я вучыўся ў латышскага майстра Дунаца Вуцаса, знакамітага на ўвесь свет майстра свірэляў, гусляў і колавай ліры. За сваю працу я атрымаў свірэль, набыў гуслі, а таксама разбітую колавую ліру (дрэва для яе трэба сушыць 8-11 гадоў). Лютню замовілі ў Юрыя Дубнавіцкага, адзінага майстра-лютніста ў Беларусі, які аднаўляе італьянскую тэхналогію. Тодар Кашкурэвіч рабіў для нас гудок — старажытнарускі інструмент, прататып скрыпкі. Шмат акарынаў (гліняны полы інструмент з глыбокім тэмбрам). Паляўнічы рог зрабіў з бярозы. Ёсць гітара, дзве мандаліны, два барабаны, бразготкі, шархуны, бубен, варган і іншыя, драбнейшыя. Вось чым узброены «Стары Ольса».

Гутарыла Ірына ТОЎСЦІК

# Тэатр вяртаецца дамоў

У будынку Горкаўскага тэатру ў Мінску, дзе калісь месцілася сінагога, сканчаецца рамонт, які вёўся тут цягам некалькіх месяцаў. Ён трохі зацягнуўся, бо, паводле планаў, тэатр, які ўвесь гэты час даваў спектаклі, арандуючы сцэну ў Палацы Рэспублікі, меўся вярнуцца ва ўласны будынак яшчэ ў лютым.

Але адтэрміноўка вяртання ў родныя сцены атрымалася не дужа доўгай – 9 сакавіка ў Горкаўскім пройдзе першы ў абноўленым памяшканні тэатральны вечар. Прысвечаны ён будзе 80-гадоваму юбілею народнай артысткі СССР Аляксандры Клімавай. Гледачы таксама змогуць паглядзець спектакль «Мой тэатр».

Мастацкі рэжысёр тэатру Барыс Луцэнка распавёў пра прэм'ерныя планы. Прыкладна ў красавіку ў Горкаўскім маркуюць паказаць прэм'еру «Калігулы» паводле п'есы французскага пісьменніка і філосафа Альбера Камю. Барыс Луцэнка мае намер у юбілейны для Янкі Купалы год заняцца тэатральнай пастаноўкай ягонай паэмы «Сон на кургане». Да працы над ёю ўжо далучыўся паэт Леанід Дранько-Майсюк, і цяпер рэжысёр шукае спонсараў на тэатралізацыю Купалавай паэмы. Гэта будзе ўжо другі твор Янкі Купалы на сцэне Горкаўскага тэатру: шмат гадоў тут ідзе «Раскіданае гняздо».

Кірыла ПАЗЬНЯК

# «Белая вежа» пад прыцэлам Мінкульту

Тэатральны фестываль «Белая вежа», які мае адбыцца сёлета ў Берасці, апынуўся перад пагрозай зрыву. Адзін са сталых сябраў ягонага аргкамітэту, намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка прапануе мясцовым дзеячам мастацтва не патрабаваць фінансавай долі Мінкульту (у 2001 годзе яна складала каля 50 мільёнаў рублёў) і перанесці тэрміны фэсту на наступны год. Гэты своеасаблівы ультыматум тлумачыцца быццам бы празмернай для рэспубліканскага бюджэту колькасцю рэгіянальных сцэнічных імпрэзаў. Берасцейская «Белая вежа» ў дадзеным выпадку канкуруе за інвестыцыі з Мінску з маладзечанскай «Сакавіцаю».

Горшае, аднак, не ў тым, што адменяць тэатральны фестываль, у якім удзельнічаюць 25 тэатральных калектываў з 15 краінаў свету. Заўжды галоўнай адметнасцю «Белай вежы» быў паказ нацыянальных спектакляў ля падножжа Камянецкага слупа. Гэта – экзотыка, якой нідзе больш няма, і выява повязь сучаснасці з гісторыяй. Падрыхтоўка да такіх незабыўных сустрэчаў прымушала ўлады вобласці і Камянеччыны дбаць пра працяг рэканструкцыі аднаго з найстаражытнейшых збудаванняў на тэрыторыі Беларусі. Наўрад ці сёлета ўдасца замяніць перакрыцці на верхніх ярусах вежы і адкрыць нарэшце музей, які раней наведвалі больш як 30 тысяч чалавек цягам аднаго году.

Галіна БАРАВАЯ

# Клопат пра маладых кампазітараў

У беларускіх кампазітараў шмат праблем, і адна з іх – адсутнасць сродкаў. Аб гэтым 20 лютага гаварылася на прэс-канферэнцыі, прысвечанай падрыхтоўцы і правядзенню XIII з'езду Беларускага саюзу кампазітараў, які адкрыецца ў Мінску 25 лютага.

Паводле слоў старшыні рэвізійнай камісіі Беларускага саюзу кампазітараў (БСК) Кіма Цесакова, яшчэ адна важная праблема – адносіны дзяржавы да маладых кампазітараў. «Нашы маладыя кампазітары ў бядоце, у большасці сваёй яны жабракі, што да кватэрнага пытання і ганарараў», – сказаў К.Цесакоў. Акрамя таго, паводле яго слоў, у БСК існуе вельмі важная "ўзроставая праблема». «У нас вельмі мала маладых кампазітараў, сярэдні ўзрост членаў арганізацыі – 40 гадоў, што вельмі трывожыць», – сказаў Цесакоў. Зараз арганізацыя налічвае 125 чалавек, з якіх 15 жывуць за мяжой – у Расіі, Ізраілі, ЗША, Мексіцы, Германіі. Паводле словаў кампазітара Дзмітрыя Лыбіна, адна з праблем БСК заключаецца ў тым, што "ў перыяд паміж з'ездамі арганізацыя практычна не функцыянуе, творчая дзейнасць яе невялікая, што і патрэбна мяняць у першую чаргу».

Маша ПЯТРОВА

# Рыфмы і мас-медыя

У Міністэрстве інфармацыі прапрацоўваюць распрацоўваць праекты па стварэнні мас-медыя груп на грунце дзяржаўных беларускіх газет і часопісаў. Пачалося ўсё з культурніцкіх выданняў, пра зліццё якіх гаворка ішла цягам апошніх двух гадоў. Першай ластаўкай нядаўна стала аб'яднанне газеты «Культура» і часопіса «Мастацтва» ў прэсавы холдынг, які скарочана сталі называць «КіМ».

А днямі стала вядома, што ў хуткім часе з'явіцца яшчэ адзін холдынг з назвай-рыфмай «ЛіМ». Называецца ён так будзе паводле газеты «Літаратура і мастацтва», якая мусіць увайсці ў новы мас-медыя холдынг. Сюды ж патрапяць, па планах Міністэрства інфармацыі, яшчэ пяць выданняў падобнага накірунку: часопісы «Полымя», «Маладосць», «Крыніца», «Нёман» і «*Всемирная литература*». У кожнага суб'екта холдынгу будзе свой рэдактар, а на чале аб'яднання стане асобны чалавек у якасці дырэктара. Хутчэй за ўсё гэта будзе які-небудзь чыноўнік з Мінінфармацыі, як сталася пры ўтварэнні «КіМа». Чалавек гэты будзе займацца, відаць, пераважна камерцыйным бокам справы, у якім творчая інтэлігенцыя, занятая ў згаданых літаратурна-мастацкіх выданнях, не дужа разбіраецца. У Міністэрстве інфармацыі лічаць, што такім чынам гэтыя выданні можна будзе зрабіць менш стратнымі. Калі ж вырашана лічыць грошы, то многіх з культурніцкіх газет і часопісаў, аб'яднаных у холдынг, чакаюць звальненні. Літаратурна-мастацкія выданні холдынгу «ЛіМ» мусяць звольніць кожнага пятага супрацоўніка. Разам з тым творцы баяцца, што дырэктар на чале холдынгу будзе ўмешвацца ў творчы працэс і адгрывацьмуць тым самым ролю прыхаванага цэнзара.

Апрача «Лім»а і «КіМ»а, будуць створаныя яшчэ некалькі мас-медыя груп. Адна, у прыватнасці, нібыта мае паўстаць вакол газеты «*Советская Белоруссия*».

Кірэй МАНУЙЛА

**УШАНАВАННІ**

# Напалеон Орда збярог нашу памяць

У Іванаўскім раёне пачаліся мерапрыемствы, прымеркаваныя да 195-годдзя з дня нараджэння вядомага мастака 19-га стагоддзя Напалеона Орды.

У Іванаўскім доме культуры прайшла творчая вечарына «Вяшчун, паэт, мастацтва бог», прысвечаная Ордзе. У гісторыю ён увайшоў як музыкант і мастак. Нейкі час Орда, вучань славутага кампазітара Федэрыка Шапэна, займаў пасаду дырэктара Італьянскай оперы ў Парыжы, выкладаў музыку. Ён шмат падарожнічаў і маляваў. Выкананыя Ордам малюнкі манастыроў і маёнткаў XIX стагоддзя надзвычай каштоўныя. Пра тое, чым была багата Беларусь, можна меркаваць толькі па гэтых малюнках. Ён маляваў руіны замку ў Лідзе, касцёлы ў Бялынічах і Бярозе-Картузскай, палац Тышкевічаў у Лагойску, Сафійскі сабор у Полацку, палац Сапегаў у Ружанах, зрабіў шмат сядзібных замалёвак, якія сёння падаюць нам той выгляд радзімы, якая яна мела паўтара стагоддзя таму.

Каля ўваходу ў парк імя Напалеона Орды ў вёсцы Варацэвічы ўстаноўлена арка, выкананая мясцовым мастаком Уладзімірам Лукашыкам. Мяркуецца, што з наступленнем цяпла ў парку зробяць кветнікі і пасадзяць новыя дрэвы. Сюды прывезлі камень-валун, на які пазней прымацуюць памятную дошку.

Імя Напалеона Орды доўгі час было забыта на радзіме, а фамільнае пахаванне было знішчана дзікунамі ў гады савецкай улады. На месцы магілак пабудавалі школу. Пасля таго як мясцовы настаўнік Барыс Вайцэховіч знайшоў надмагільную пліту Орды, краязнаўцы актывізавалі сваю працу. У Іванаве паставілі помнік Напалеону Ордзе, а ў Варацэвічах стварылі музей славутага земляка.

З нагоды 195-годдзя з дня нараджэння Орды летась у Беларусі выйшаў з друку альбом з ягонымі акварэлямі і літаграфіямі.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

